© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

27 чэрвеня 2003 года

№ 26 (427)
Выходзіць па пятніцах

плюс Тэлетыдзень




## Навіны рэгіёну

### Канец калгасам

**АСТРАВЕЦ**. На мінулым тыдні на Астравеччыне не стала калгасаў. Іх рэарганізавалі ў сельскагаспадарчыя вытворчыя кааператывы. Амаль усе былыя калгасы змянілі назвы. Няма больш "Чырвонага Кастрычніка", "Шляха Леніна", імя Карла Маркса. З'явіліся "Варняны", "Гервяты", якія адпавядаюць назвам вёсак, дзе месцяцца цэнтральныя сядзібы. У вёсцы Малі ўзнік кааператыў імя Гашкевіча. Былы калгас імя Карла Маркса, землі якога знаходзяцца ля шашы Вільня – Полацк, цяпер завецца "Полацкім трактам".

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Затрымалі за суткі

**СМАРГОНЬ**. Усяго суткі спатрэбіліся мясцовым міліцыянерам, каб выявіць і затрымаць 25-гадовага жыхара Магілёва, які абакраў дзве кватэры. Дзейнічаў ён сярод белага дня, калі гаспадары былі на працы. Узламаўшы дзверы, выкрадаў золата, грошы і гарэлку.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

### Покліч продкаў

**АШМЯНЫ**. У мястэчка Гальшаны прыехалі з Канады і Ізраіля нашчадкі сям'і Ліёнд, якая некалі тут жыла.
Іх дачка Фрума заўсёды хацела паказаць дзецям і ўнукам сваю малую радзіму, дзе нарадзілася і жыла да 18 гадоў.

**Ірына РАБУШКА.**

### Стоп вагону

**МАЛАДЗЕЧНА**. На маладзечанскім таможаным пасту затрымалі 7 вагонаў з ламінаваным паркетам, які незаконна везлі з Германіі ў Расію. Папярэдне груз ацанілі ў 1 мільярд 800 тысяч беларускіх рублёў.

**Ірына РАБУШКА.**

### Свята горада

**ВАЛОЖЫН**. Заўтра райцэнтр адзначыць свой дзень нараджэння. Валожынцы і госці будуць катацца на брычках. Для іх выступяць вядомыя артысты Іна Афанасьева, Сяргей Мінскі. Улады вылучаць лепшыя вуліцы, сядзібы, дамы, пад'езды.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### Не плацяць!

**ВІЛЕЙКА**. Медыкам раёна, работнікам адукацыі, акрамя сельскіх садоў, не выплацілі заробтную плату за май. Медыцыне вінаватыя 224 мільёны рублёў. Школам і садам — 392 мільёны рублёў. Прычына нявыплаты заробтнай платы – адсутнасць грошай у фінансавага аддзела райвыканкома, які фінансуе гэтыя ўстановы.

**Ірына РАБУШКА.**

# У беспрацоўя твар жаночы




Шмат гараджан і вяскоўцаў у нашым рэгіёне штодня страчвае працу. Мужчынам уладкавацца лягчэй. Асабліва на рабочыя спецыяльнасці. Жанчынам знайсці работу вельмі складана.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**ВІЛЕЙКА. Даўно мінулі тыя часы, калі людзей за дармаедства прыцягвалі да адказнасці. Амаль у кожнага з нас сёння ёсць сваякі альбо суседзі, што ў сілу нейкіх абставін прымяралі на сабе статус беспрацоўных. Сітуацыя, шчыра кажучы, не з прыемных.**

Асабліва калі вымушаны водпуск зацягваецца не на тыдзень і не на два, а на месяцы. Адна мая знаёмая, дарэчы, эканаміст па адукацыі, шукала працу больш года. І ўвесь гэты час, як прызналася сама, не магла ні жыць, ні спаць, бо адвечнае пытанне "Што рабіць?" падымала з ложка і ў дзве, і ў тры гадзіны ночы.

У падобным ёй становішчы аказалася ў Вілейцы больш сямісот афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных. Незапатрабаванымі, як расказалі ў цэнтры занятасці, засталіся прафесіі бухгалтара, тэхнікатэхнолага, эканаміста. Не ў пашане і закройшчыкі, повары, а ўсё таму, што прадпрыемствы, арганізацыі горада не набіраюць, скарачаюць рабочых. Нядаўна даведзеная да адчаю жанчына, спецыяліст з вышэйшай адукацыяй, згадзілася пераехаць у сельскую мясцовасць і пайсці працаваць на ферму даяркай. Дыпломам сыты не будзеш, а дзяцей трэба карміць кожны дзень. Дарэчы, на ўліку ў службе занятасці значацца 44 спецыялісты з вышэйшай адукацыяй, 117 – з сярэдняй спецыяльнай, і толькі 5 чалавек маюць за плячыма дзевяць класаў агульнаадукацыйнай школы. А найбольш неабароненымі аказаліся жанчыны. Ад агульнай колькасці непрацуючых яны складаюць 80 працэнтаў, і рэальных шансаў працаўладкавацца пакуль што не маюць, чаму пацвярджэннем і звесткі аб наяўнасці рабочых месц, пададзеныя ў раённы цэнтр занятасці прадпрыемствамі і гаспадаркамі. Там чакаюць у асноўным вадзіцеляў, муляраў, токараў, фрэзероўшчыкаў і не маюць патрэбы ў выхавальніках дзіцячых садоў, прадаўцах.

Каб хоць неяк падтрымаць жанчын, служба занятасці шукае для іх разовую, часовую работу. Прадстаўніцы слабай паловы чалавецтва шчыруюць у калгасах на праполцы буракоў, дапамагаюць пераб'іраць бульбу, збіраюць на палетках гаспадарак камяне. Заробкі атрымліваюць мізэрныя, але ж і за дзяржаўную дапамогу, якая ў мінулым месяцы, напрыклад, склала ў сярэднім 21.800 рублёў, не пражывеш. Не бачаць выйсця з зачараванага кола многія жанчыны, а таму згаджаюцца на пераадукацыю, якую з пачатку года прайшлі ў Вілейцы 72 чалавекі. Па новых спецыяльнасцях змаглі ўладкавацца далёка не ўсе, у беспрацоўя, як і некалькі месяцаў таму, застаецца жаночы твар.

**Марына СЛІЖ.**

### Смерць на рэйках

Маладзіца К. ў самы разгар застолля паблізу чыгункі кінулася пад колы цягніка.



3-я старонка

### Радашкавічы – не Рым

Аднак гучнай славай не абдзеленыя. Гісторык Міхаіл Філістовіч пачынае новы цыкл "Гістарычны атлас рэгіёну".



7-я старонка

### Амерыка

Вучоба і жыццё ў гэтай краіне. Што б ні казалі, а Амерыка нямала зрабіла для беларускіх школьнікаў. Аб амерыканскім жыцці расказвае маладзечанская школьніца, якая правяла за акіянам год.

10-я старонка

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Не ўсцерагліся ад цягніка

**24 мая маладзіца К. са сваімі сябрукамі выпівала паблізу чыгункі ў Смаргоні. У самы разгар застолля яна раптам сп'яну кінулася пад цягнік. Сэрца 23–гадовай жанчыны перастала біцца. А яе маленькая дачка засталася сіратой.**

Прычына, якая штурхнула смаргонку на такі ўчынак, высвятляе міліцыя на транспарце. Вядома толькі, што раней такія свае намеры яна выказвала знаёмым.

Як і раней, траўматызм на чыгунцы – з'ява нярэдкая. Ужо сёлета на ўчастку, які абслугоўвае Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце, пад коламі цягніка пацярпела 8 чалавек. Чацвёра з іх, у тым ліку і смаргонка К., выбралі чыгунку ў якасці сродку звядзення рахункаў з жыццём.

**Даведка. Маладзечанскі аддзел унутраных спраў на транспарце (АУСТ) абслугоўвае ўчастак з працягласцю чыгуначнай каляіны ў 269 км. На ім размешчана 17 станцый і 35 прыпыначных пунктаў. У зону адказнасці аддзела ўваходзіць тэрыторыя 7 раёнаў: Маладзечанскага, Вілейскага, Мядзельскага, Смаргонскага, Валожынскага, Ашмянскага, Астравецкага.**

Праблем, якія звязаныя з правапарушэннямі на аб'ектах чыгуначнага транспарту, у супрацоўнікаў Маладзечанскага АУСТ дастаткова. Найчасцей яны выкліканыя агульнымі негатыўнымі з'явамі ў грамадстве, нізкім узроўнем прававой культуры людзей.

Жыхар Аляхновічаў Н, 1980 года нараджэння, па ўласнай неабачлівасці летась трапіў пад цягнік. Абышлося лёгкім перапалохам. А ўжо 4 мая гэтага года ён зноў трапляе пад той самы цягнік. На гэты раз яму адрэзала нагу.

Нярэдка, не выключэнне сёлета, пад цягнікі трапляе буйная рагатая жывёла, якая выпасваецца непадалёк ад чыгункі і належыць калгасам і вяскоўцам. Выпадкі пакідання скаціны без нагляду прыводзяць да сумных вынікаў і для гаспадароў жывёлы, і для чыгуначных арганізацый, якія церпяць страты з–за пашкоджанняў абсталявання цягнікоў.

У летні перыяд многія сельскія гаспадаркі пераводзяць скаціну на кругласутачны выпас, забяспечваючы пастухоў дапаможнымі сродкамі ў выглядзе "электрапастухоў", адчаго сапраўдныя пастухі ноччу трацяць пільнасць і спяць. Часта бываюць п'янкі. Кантроль з боку старшынь калгасаў, начальнікаў участкаў, загадчыкаў ферм слабы.

**Даведка. Тармазны шлях цягніка складае 400 метраў і больш. Гэтай адлегласці бывае недастаткова, каб ўратаваць чыёсьці жыццё.**

Галоўная прычына траўматызму – п'янства, парушэнне элеметарных правілаў паводзін на транспарце.

**Даведка. За хаджэнне па пуцях ва неўстаноўленых месцах прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у выглядзе штрафу да паловы базавай велічыні (сёння гэта складае да 7 тысяч рублёў). А за парушэнне правілаў праезду гужавым транспартам і прагону скаціны праз пуці, выпас жывёлы паблізу чыгуначнага палатна цягне накладанне штрафу ад паловы да адной базавай велічыні, а на службовых асоб – ад 1 да 2 базавых велічынь.**

Паважаныя чытачы, не забывайцеся, што чыгунка з'яўляецца зонай павышанай небяспекі і каб пазбегнуць трагічных выпадкаў, захоўвайце элементарныя меры перасцярогі.

**Ігар ІВАШЫНКА,**
**старшы інспектар прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце.**


Трагічнае здарэнне на адным з участкаў Беларускай чыгункі ў Гродзенскай вобласці. На гэты раз не раз'ехаліся грузавік і цягнік. Вадзіцель аўтамабіля загінуў.
Фота Віталя ПЛЯ, IREX/ProMedia.

## Курсы валют НБ РБ

| | 19.06 руб. | 26.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2054,00 | 2059,00 |
| Еўра | 2416,43 | 2372,38 |
| Злоты | 551,93 | 531,49 |
| Літ | 699,96 | 687,15 |
| Расійскі рубель | 67,61 | 67,91 |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 2045/2065 | 2045/2065 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 18.06 | 25.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 11980 | 12600 |
| Сасіскі, 1 кг | 4310 | 4350 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 1 кг | 780 | 780 |
| Грэчка, 1 кг | 1450 | 1450 |
| Цукар, 1 кг | 1240 | 1280 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 800 | 900 |
| Алей, 1 л | 1650 | 1750 |
| Маянэз, 200 г | 450 | 470 |
| Кава «Пеле, 100 г | 2200 | 2200 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 750 | 750 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 650 | 680 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1100 | 1100 |
| Капуста, 1 кг | 750 | 1000 |
| Морква, 1 кг | 1300 | 1000 |
| Лімоны, 1 кг | 2500 | 2400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1850 | 1900 |
| Клубніцы, 1 кг | | 3500 |
| Чарэшня, 1 кг | | 3500 |
| Памідоры, 1 кг | | 2300 |
| Яблыкі, 1 кг | | 2000 |

### Сялянскія прадукты

| | | |
|---|---|---|
| Малако, 1,5 л | 700 | 700 |
| Смятана, 1 л | 2000 | 2000 |
| Масла, 1 кг | 4400 | 4400 |
| Тварог, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1450 | 1200 |
| Бульба, 1 вядро | 2800 | 2800 |
| Яблыкі, 1 кг | 1300 | 1300 |
| Бульба маладая, 1 кг | | 2000 |
| Клубніцы, 5-літр. вядро | | 18000 |

## Асцярожнасць – не перашкода

**Сёння няма чалавека, які б не адчуў на сабе тых зручнасцей, што нясе электрычнасць. Аднак, карыстаючыся ёй дома, на працы, трэба заўсёды памятаць, што разам з выгодамі тоіць яна яшчэ і небяспеку.**

На вуліцы лета, час летніх канікулаў. Менавіта ў гэты час дзеці найбольшым чынам аказваюцца адны. Таму просім у першую чаргу бацькоў: знайдзіце вольную хвілінку і напомніце сваім нашчадкам, што свавольства, гарэзлівасць паблізу ліній электраперадач вядуць, як і аголеныя правады і патроны, да бяды. Нельга таксама браць мокрымі рукамі альбо вільготнай анучкай уключаныя ў разетку асвятляльныя прыборы, прымяняць самаробныя электранагравальнікі, датыкацца да правадоў паветраных ліній электраперадач пры абрэзцы дрэў альбо зборы фруктаў.

Не шкодзіла б успомніць пра тэхніку бяспекі і дарослым, якія ў большасці выпадкаў становяцца ахвярамі ўласнай абыякавасці: праводзяць часовую электраправодку ў хлявы, веранды, ванныя пакоі, робяць рамонт электрычных прыбораў, не выключыўшы іх з разеткі.

Любы няшчасны выпадак можна прадухіліць. Для гэтага проста кожны чалавек павінен быць законапаслухмяным і асцярожным. Бо абыякавасць дорага каштуе.

**В.САЗОНАЎ,**
**кіраўнік групы электратэхнічнай інспекцыі.**

53841 тэл. у Маладзечне
рэклама ў «Рэгіянальнай газеце»
тэл. у Маладзечне 53841
рэклама
тэл. у Маладзечне 53841

**Беларускі тэхнікум бізнесу і права пры Беларускім інстытуце правазнаўства. Вілейскі філіял.** Ліцэнзія Міністэрства адукацыі №114 ад 30.01.1997 (прадоўжана загадам МА №156 ад 02.05.2002).
Аб'яўляе прыём абітурыентаў у 2003 г. для навучання па спецыяльнасцях:
**«Правазнаўства»** – на базе 9 і 11 класаў на дзённае і завочнае навучанне, прысвойваецца кваліфікацыя «Юрыст». **«Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль»** – на базе 9 і 11 класаў на дзённае і завочнае навучанне, прысвойваецца кваліфікацыя «Бухгалтар». **«Эканоміка і арганізацыя вытворчасці»** са спецыялізацыяй **«Эканоміка і прававое забеспячэнне прадпрымальніцкай дзейнасці»** – на базе 9 і 11 класаў на дзённае навучанне, прысвойваецца кваліфікацыя «Тэхнік-эканаміст».
**Тэрміны навучання**: на базе 9 класаў — 2 гады 10 месяцаў; на базе 11 класаў — 1 год 10 месяцаў; завочнае навучанне — 2 гады 9 месяцаў. **Прыём дакументаў** — з 15 чэрвеня па 15 жніўня, на завочнае навучанне — з 3 мая па 20 жніўня. У прыёмную камісію падаецца **заява** ўстаноўленай формы, да якой прыкладаюцца: **дакумент аб адукацыі** (арыгінал); **медыцынская даведка формы, якая ўстаноўлена Міністэрствам аховы здароўя РБ; шэсць фотакартак 3х4; выпіска з працоўнай кніжкі** (для тых, хто працуе); **сертыфікат цэнтралізаванага тэсціравання** (для тых, хто ў ім удзельнічаў); **пашпарт або пасведчанне аб нараджэнні** (прад'яўляецца ў прыёмную камісію асабіста). Разам з пералічанымі дакументамі падаюцца дакументы, якія пацвярджаюць права на льготы, якія ўстаноўлены заканадаўствам РБ. **Уступныя экзамены праводзяцца з 1 жніўня.**
Тыя, хто паступае *на дзённую форму навучання*, у залежнасці ад выбранай спецыяльнасці праходзяць **наступныя іспыты: «Правазнаўства»** — па гісторыі Беларусі (вусна), беларускай /рускай/ мове (дыктант); **«Бухгалтарскі ўлік, аналіз і кантроль», «Эканоміка і арганізацыя вытворчасці»** — па беларускай /рускай/ мове (дыктант), матэматыцы (экзамен у форме тэсціравання). *Абітурыенты, якія скончылі сярэднюю ці базавую школу, ПТВ з адзнакамі "6", "7", "8", "9", "10" балаў, залічаюцца ў тэхнікум па конкурсе сярэдняга балу дакумента аб адукацыі ў перыяд 5-дзённага тэрміну да пачатку ўступных іспытаў.*
*На завочную форму навучання* прымаюцца асобы, якія маюць сярэднюю адукацыю, або выпускнікі ПТВ, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў у парадку атрымання другой адукацыі. Тыя, хто паступае на завочную форму навучання па спецыяльнасці **«Правазнаўства»**, праходзяць іспыты па гісторыі Беларусі (вусны экзамен), па беларускай /рускай/ мове (дыктант). **На астатнія спецыяльнасці** залічэнне праводзіцца па выніках субяседавання па беларускай /рускай/ мове і матэматыцы да 30 жніўня ў некалькі этапаў.
*Выпускнікі, якія паспяхова скончылі тэхнікум, залічваюцца на 3 курс Беларускага інстытута правазнаўства без уступных экзаменаў (па субяседаванню).*
Навучанне ажыццяўляецца за памяркоўную плату: дзённае па спецыяльнасці "Правазнаўства" — 400 у.а., па астатніх спецыяльнасцях — 375 у. а. Завочнае навучанне — 325 у. а. На працягу навучання (за асобную плату) у жадаючых ёсць магчымасць атрымаць вадзіцельскае пасведчанне катэгорыі "А", "В", "ВС".
Адрас: Вілейскі філіял БТБ і П, 222410, г. Вілейка, Мінская вобл., вул. Савецкая, 54. Тэлефоны: 55586, 57667.

Вытворча-забеспячэнцкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Белрэахім» прапануе:
— **Мензуркі** *(шклянкі ў адпаведнасці з ГОСТам)*; **тэрмометры** *вонкавыя, пакаёвыя, водныя;* **псіхрометры** *(дзеля вызначэння вільготнасці)*; **спіртометры**; **пальчаткі** *гумовыя і латэксныя;* **дэзінфіцыруючыя сродкі** *для падлогі, паверхняў, посуду, гігіенічнай апрацоўкі рук;* **бутлі** *10л, 20л;* **хімрэактывы**.
— **Посуд лабараторны** — *колбы, шклянкі, цыліндры, прабіркі, скарыфікатары, піпеткі, шалі, дыстылятары, мэблю і інш.*
*Больш за 200 найменняў.*
Наш адрас: 220103, г. Мінск, вул. Каліноўскага, 6.
Тэлефон 2652422, тэл./факс 2830206.
*Мы працуем дзеля вас.*
Падлягае абавязковай сертыфікацыі. Ліц №2314 Мінскі ГВК да 11.03.2008. Ліц №11995 Мінскі ГВК да 23.06.2005.

*Арганізацыя вырабляе і прадае*
**дошку для падлогі, вагонку, плінтус, налічнік, брус.**
*Тэл. у Маладзечне* **30008, (8-029) 6766706.**
Ліц №861, Маладзечанскі ГВК 27.07.200-27.07.2005.

**Кодавыя металічныя дзверы з дамафонам для пад'ездаў.**
Устаноўка. Т. у Маладзечне 65166.
Ліц №2609 Мінскі ГВК ад 30.05.2002.

**УВП «Завод сухіх сумесяў» ААТ «Забудова»**
прадае са склада ў п.Чысць
**сухія сумесі**
ЗАБУДОВА
(шпаклёўка, тынкоўка, клей для пліткі, гідраізаляцыя і інш.) усяго 61 рэцэпт,
**уцяпляльнік ячэістабетонны, цэмент М500** у мяхах па 25.40 кг.
Форма аплаты любая (наяўны, безнаяўны разлік, вэксалі, залікі, бартэр).
Тэл. **(01773) 99155, 90291, (8-029) 6999155.**
Ліц №467, Маладзечанскі РВК 29.11.2002-28.11.2007.

**ПЯЧАТКІ, ШТАМПЫ, ГРАВІРОЎКА**
*г. Маладзечна, вул. Буйніцкага, 63,*
***тэл./факс 54402. ТДА «ВІЗІТ».***
Ліц. №006 МУС РБ ад 20.05.1998 г. да 20.05.2003 г.

Услуги пейджинговой связи
В.Гастинец, 143-508
ПРОДАЖА И ОБСЛУЖИВАНИЕ 7-16-35
RADIO РАДИО PAGE ПЭЙДЖ
НИЗКИЕ ЦЕНЫ!!! ДОСТУПНО КАЖДОМУ!!!
Принимаем на обслуживание с собственными пейджерами
*Лицензия Минсвязи РБ № 550 от 23.03.1998г.*

**ПОМНІКІ**
з граніту і мармуровай крошкі.
Розныя формы.
Т. у Маладзечне 34171

**Інстытут кіравання і прадпрымальніцтва**
Ліц №10 Міністэрства адукацыі РБ ад 17.06.1993
Прадоўжана загадам Міністэрства адукацыі РБ №529 ад 05.08.1999
Сертыфікаты аб дзяржаўнай акрэдытацыі №52 ад 08.11.1999, №63 ад 19.06.2000.
**Аддзяленне інстытута ў Маладзечне**
**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ АБІТУРЫЕНТАЎ**
**на 2003-2004 навучальны год**
на завочную форму навучання
па спецыяльнасцях:
– **Менеджмент**
– **Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве**
– **Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт**
Навучанне платнае.
Асобы, якія маюць сярэднюю спецыяльную адукацыю, прымаюцца на завочнае навучанне на скарочаны тэрмін па спецыяльнасцях: «Эканоміка і кіраванне на прадпрыемстве» і «Бухгалтарскі ўлік, аналіз і аўдыт».
**Тэлефоны: 70010, 30131.**
**222310, Маладзечна, вул. Машэрава, 3.**

**СТЕКЛОБАНКА**
1л.; 1,5л.; 2л.; 3л.
СКО, евротвист
**КРЫШКА**
закаточная
СКО, твист
(017) 226-74-48
(017) 223-57-58
Лиц. №33476, 26.09.2002—07г. Выд. МГИК

**ПОМНІКІ**
**з каліброванага граніту**
*Дастаўка па РБ — бясплатная.*
Тэл. у Маладзечне ........ **31294, 62895.**
Тэл. у Вілейцы ....... 57135, 54315
Тэл. у Валожыне ... 55140 Тэл. у Астраўцы .... 21508
Тэл. у Мядзеле ...... 55720 Тэл. у Ашмянах ..... 42970
Тэл. у Нарачы ....... 47000 Тэл. у Смаргоні ..... 34547

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



# Імя Кузьмы Галіцкага

**З вялікім задавальненнем у чарговы раз, цяпер ужо пра гісторыю паходжання назваў маладзечанскіх вуліц, прачытаў артыкул кандыдата гістарычных навук Міхаіла Філістовіча. Маладзечна — адзін з нямногіх гарадоў нашай краіны, дзе ў назвах яго вуліц удала перапляліся гісторыя і тапаніміка, выпадковасць і заканамернасць, даніна народнай памяці і асаблівасці месцазнаходжання таго ці іншага жылога раёна. У адным з эпізодаў таго артыкула расказваецца пра вуліцу, якая носіць імя былога камандуючага 11-й гвардзейскай арміі, Героя Савецкага Саюза, генерал-палкоўніка Кузьмы Мікітавіча Галіцкага, асобыя часці якой 5 ліпеня 1944 года ўдзельнічалі ў вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**



Так праходзіў прызыў у Чырвоную Армію 26 верасня 1940 года ў Куранецкім райваенкамаце. Капцюг Іван Рыгоравіч з в.Урэчча цяперашняга Вілейскага раёна першы злева ад мужчыны, які трымае транспарант (у цэнтры фатаграфіі).

Упэўнены, што менавіта гэта прозвішча з 17-і найбольш вызначыўшыхся савецкіх военачальнікаў у дадзенай наступальнай аперацыі дастойна знайшло сваё ганаровае месца ў біяграфіі горада. Справа яшчэ ў тым, што ў чэрвені 1940 года пад Маладзечна было перадыслакавана адно са старэйшых злучэнняў Чырвонай Арміі, меўшай багатыя воінскія традыцыі, 24-я Жалезная Самара-Ульянаўская двойчы Чырванасцяжная стралковая дывізія. Сфарміравана яна была летам баявога 1918 года на Паволжы, прымала актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне. За рашучае і мужнае наступленне на Сімбірск дывізіі было прысвоена ганаровае найменне Сімбірскай Жалезнай дывізіі, і яна стала першай у РККА Чырванасцяжнай. У 1939-1940 гадах вызначылася пры прарыве лініі Манергейма на Карэльскім перашыйку, за што атрымала другі ордэн Чырвонага Сцяга. Камандзірам яе быў генерал-маёр Кузьма Галіцкі.

У прыгарадзе Гелянова размясціліся ўпраўленне дывізіі, 7-ы стралковы і 246-ы гаўбічны палкі, асобы зенітна-артылерыйскі дывізіён і іншыя дапаможныя падраздзяленні. 160-ы артылерыйскі полк стаяў па вуліцы М.Горкага (цяпер Замкавая). Іншыя стралковыя палкі стаялі: 168-ы – у Валожыне, 274-ы – у Красным. У Вілейцы размясціўся 73-і асобы сапёрны батальён, а ў Смаргоні – супрацьтанкавы дывізіён. У большасці выпадкаў яны займалі былыя пабудовы польскіх ваенных.

На той час гэта было адно з найбольш падрыхтаваных, дысцыплінаваных і добра ўкамплектаваных для вядзення баявых дзеянняў воінскае злучэнне Чырвонай Арміі. Напачатку вайны ў яго штаце налічвалася 12 тысяч чалавек, з іх 1022 члены партыі, 537 кандыдатаў і 5060 камсамольцаў. У іншых дывізіях Чырвонай Арміі было 8 тысяч, а то і менш чалавек. Сам камандзір часта сустракаўся з партыйным і гаспадарчым актывам Вілейскай вобласці. Будучы членам яе абласнога камітэта, актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці рэгіёну.

З пачаткам вайны Жалезная дывізія першапачаткова атрымала загад прыбыць у раён Гродна для прыкрыцця дзяржаўнай мяжы, аднак днём ён быў заменены, а ў 21 гадзіну 22 чэрвеня войскі дзвюма калонамі на Вішнева-Юрацішкі і Краснае-Валожын рушылі на Ліду. У свой першы бой з танкамі 19-й нямецкай дывізіі савецкія воіны ўступілі ранкам 25 чэрвеня каля рубяжа Трабы-Суботнікі і атрымалі ўпэўненую перамогу. Праціўнік страціў каля трох дзесяткаў танкаў, больш за 50 спаленых аўтамашын і добрую сотню палонных, калі не лічыць забітых.




Здымак макета памятнага знака воінам Заходняга фронту, загінуўшым у чэрвені-ліпені 1941 года ў Налібоцкай пушчы.

Тым часам сітуацыя на Заходнім фронце была вельмі складанай і праз некалькі дзён закончылася ў большасці выпадкаў трагедыяй для войск Чырвонай Арміі.

26 чэрвеня перадавыя часці 2-й і 3-й нямецкіх танкавых груп прарваліся да Мінска, праз два дні злучыліся паміж сабой, перарэзаўшы шляхі адыходу многіх часцей і злучэнняў 3-й і 10-й савецкіх армій.

11 іх дывізій (49 палкоў) трапілі ў так званы навагрудскі "кацёл", становішча якіх у акружанай Налібоцкай пушчы было жудасным і безнадзейным. Але мужныя савецкія воіны, нягледзячы на вялікі дэфіцыт боепрыпасаў, паліва, прадуктаў харчавання і медыцынскіх сродкаў, гераічна змагаліся. Баі ў некаторых месцах працягваліся да 8 ліпеня, хаця ўжо 25 чэрвеня праціўнікам былі заняты гарады Ашмяны, Смаргонь, Валожын, Маладзечна.

Частка акружэнцаў з вялікімі для сябе стратамі сумела прарвацца праз нямецкія заслоны і выйсці на злучэнні са сваімі войскамі ў раёне Бярэзіны і Дняпра. Аднак "кацёл" пад Навагрудкам прынёс нямала турбот і германскаму камандаванню, бо на яго блакіроўку і ліквідацыю на вялізнай лясістай і балоцістай тэрыторыі адрываліся ад маланканоснага паходу на ўсход вялікія сілы, каля 25 варожых дывізій.

Байцы 24-й дывізіі правялі яшчэ некалькі ўдалых аперацый, знішчыўшы за два дні баёў 127 танкаў праціўніка, збіўшы 8 самалётаў. 28 чэрвеня быў атрыманы загад адысці ў бок Дзяржынска, і злучэнне Галіцкага ў поўным складзе апынулася ў акружэнні. Рэальна ацаніўшы сітуацыю і маючы вялікія даваенныя тактычныя распрацоўкі, генерал змог адшукаць правільны выхад з, здавалася, тупіковага становішча.

Позна вечарам 29 чэрвеня галоўныя сілы дывізіі з баямі пачалі арганізавана адыходзіць на Бакшты-Налібокі-Рубяжэвічы, выбілі немцаў з раённага цэнтра Узда і прарвалі ўнутранае кальцо Навагрудскага "катла". Наперадзе быў 200-кіламетровы маршрут да фронту на тэрыторыі, занятай гітлераўцамі. Праціўнік разгадаў гэты манеўр і падрыхтаваўся ўдарамі з раёнаў Слуцка і Стоўбцаў знішчыць 24-ю дывізію. Тады Галіцкі вырашыў прарвацца па новым напрамку – на Палессе, што і было паспяхова выканана. 14 ліпеня 1941 года ў раёне н.п.Азарычы, нягледзячы на значныя страты, але за кошт пастаяннага папаўнення акружэнцамі, часці дывізіі ў колькасці каля 7 тысяч чалавек выйшлі за лінію фронту, завяршыўшы 500-кіламетровы баявы паход.

Іх подзвіг быў заўважаны. У цэнтральных савецкіх газетах з'явіліся артыкулы пра стойкасць, мужнасць і гераізм, якія праявілі байцы "Жалезнай" дывізіі. У 1941 годзе ў Маскве выдалі кнігу, дзе размова ішла пра баі 24-й дывізіі ў Беларусі. Гэта кніга ў тым жа годзе была выпушчана на англійскай мове ў Лондане. Само ж легендарнае злучэнне ў гады вайны перажыло сваё другое нараджэнне. Справа ў тым, што ў пачатку вайны ў адным кровапралітным баі быў страчаны яе Чырвоны сцяг, за што па ваенных законах вайсковая часць падлягала расфарміраванню, а яе камандзір – суду ваеннага трыбунала. І першага, і другога ў тыя драматычныя часы ўдалося пазбегнуць. І ўсё ж воінская святыня не трапіла ў рукі ворагу. Яе знайшоў на целе загінуўшага сцяганосца і бярог 28 месяцаў жыхар Магілёўшчыны Дзмітрый Мікалаевіч Цяпін. Калі ў кастрычніку 1943 года была вызвалена яго радзіма, сталы салдат перадаў баявы сцяг ваенным, і важнейшы атрыбут воінскай славы быў вернуты 24-й дывізіі. Цяпін жа быў навечна залічаны ў спісы 7-га стралковага палка.

Трагедыя ў Налібоцкай пушчы, дзе ў пачатку вайны знайшлі свой апошні прытулак дзесяткі тысяч савецкіх воінаў, працяглы тэрмін у нашым грамадстве была закрытай тэмай. І толькі ў апошняе дзесяцігоддзе паўстала пытанне аб узвядзенні там адпаведнага помніка мужным абаронцам Радзімы. Распрацаваны праект памятнага знака воінам Заходняга фронту, якія змагаліся і загінулі ў навагрудскім "катле" летам 1941 года. Яго аўтар, беларускі архітэктар, мастак, ураджэнец Вілейкі Анатоль Капцюг. 2-метровы гранітны знак з выявай трох салдат плануецца ўстанавіць на ўзгорку па дарозе з Навагрудка ў Любчу паблізу вёскі Куравічы, адкуль адкрываецца панарама Налібоцкай пушчы. Аднак з года ў год адкладваецца выкананне гэтай святой справы, спасылаючыся на няхватку грошай. Трэба памятаць, што матэрыяльныя затраты часта бываюць намнога меншыя, чым выдаткі на іх адсутнасць.

**Анатоль РОГАЧ.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020



■ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС РЭГІЁНУ

# Усе дарогі вядуць у... Радашкавічы

**Радашкавічы, канешне ж, не Рым, але ёсць падставы і ім далучыцца ў нейкім сэнсе да такой гучнай славы.**



Ганчар Аляксандр Маклюк, які працуе на адкрытым акцыянерным таварыстве «Белмастацкераміка», што ў Радашкавічах. Сёння мястэчка лічыцца цэнтрам вытворчасці керамікі.

**Мае права на жыццё і версія аб тым, што назва Радашкавічы пайшла ад урадлівых тут зямель. Аб тым, што гэтыя мясціны здаўна былі заселены, сведчыць знойдзены археолагамі паблізу гарадзішча і курганны могільнік жалезнага веку (V-VIII стагоддзі).**

Сапраўды, гэта мястэчка здаўна знаходзілася на скрыжаваннях транспартных і гандлёвых шляхоў Расіі на Прыбалтыку і далей на захад, з полацкай зямлі – у паўднёвыя краіны. Таму знакамітае Магдэбургскае права як прывілею на гарадское самакіраванне, што вызваляла жыхароў ад феадальных павіннасцяў, суда і ўлады ваяводаў і іншых дзяржаўных службовых асоб, Радашкавічы мелі гонар атрымаць яшчэ ў 1569 годзе, раней Магілёва, Віцебска, Оршы, Мазыра, Пінска, Нясвіжа і яшчэ больш 20 старажытных цэнтраў вытворчасці і грашоватаварнага абмену Беларусі. Такое высокае еўрапейскае прызнанне Радашкавічаў прыйшло ўжо праз 122 гады з першага ўпамінання іх у 1447 годзе ў пісьмовых крыніцах, калі віленскі кашталян Пётр Гедыгольдавіч заснаваў там касцёл Святой Троіцы.

Дакладнай версіі аб паходжанні назвы паселішча няма, але можна разглядаць, як адну з верагодных, такую, што валодаць тутэйшымі мясцінамі не цураліся вельмі радавітыя асобы. З 1449 года Радашкавічы былі ўласнасцю князя Вярэйскага, потым – магнатаў Гаштольдаў і Глябовічаў, прадстаўнікі роду якіх у XIV-XVI стагоддзях займалі высокія дзяржаўныя пасады ў Вялікім княстве Літоўскім, удзельнічалі ў рэдагаванні Літоўскага статута 1529 і паспяхова вялі перамовы ў Маскве пра ўзаемаадносіны ВКЛ і Рускай дзяржавы. Належалі Радашкавічы ў розныя часы Агінскім, Радзівілам і нават італьянцы па паходжанні каралеве Рэчы Паспалітай Боне (Bona Sforza) – жонцы вялікага князя Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта I Старога і маці Жыгімонта II Аўгуста.

Мае права на жыццё і версія аб тым, што назва Радашкавічы пайшла ад урадлівых тут зямель (хто не спыняўся ўлетку каля мяшкоў з раннімі радашкавіцкімі агуркамі, з вёдрамі яблык, суніц, грыбоў і іншых падарункаў прыроды ўздоўж шашы на Мінск). Аб тым, што гэтыя мясціны здаўна былі заселены, сведчыць знойдзены археолагамі паблізу гарадзішча і курганны могільнік жалезнага веку (V-VIII стагоддзі).

Між тым жыццё насельніцтва ніколі не было надта радасным. У мінуўшчыне Радашкавічаў, як у люстэрку, у мініяцюры адбілася гісторыя ўсёй шматпакутнай Беларусі.

За час свайго існавання яны не па сваёй волі зведалі наступствы розных дзяржаўных пераўтварэнняў і ператрусаў. Былі ў складзе ВКЛ, Рэчы Паспалітай, а пасля другога падзелу апошняй у 1793 годзе адышлі ў склад царскай Расіі. У час паўстання 1830-1831 гадоў былі захоплены барацьбітамі на нацыянальнае вызваленне ад Расіі. Былі яны арэнай нацыянальна-вызваленчага руху і ў 1863-1864 гадах, і менавіта тут знаходзіцца магіла аднаго з паплечнікаў Кастуся Каліноўскага па падрыхтоўцы і кіраўніцтву паўстання З.Б.Чаховіча, ураджэнца мястэчка Сурвілішкі Свянцянскага павета, які з канца XIX стагоддзя жыў у маёнтку Бяседы Вілейскага павета.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года тут ненадоўга, да 20 лютага 1918 года, усталявалася савецкая ўлада, а з ліпеня 1919 года на працягу 20 гадоў Радашкавічы апынуліся пад панаваннем буржуазнай Польшчы і да 17 верасня 1939 года былі фактычна пагранічным горадам паміж Заходняй і Савецкай Беларуссю.

Не мінулі Радашкавічы і шматлікія нашэсці іншаземцаў, для абароны ад якіх у XVI стагоддзі паміж рэчкамі Гуйка і Вязынка быў пабудаваны пяцівежавы драўляны замак, спалены падчас Паўночнай вайны Расіі са Швецыяй. У 1709 годзе ў Радашкавічах зрабіў свой апорны пункт Карл XII, які праіснаваў 11 тыдняў, пакуль армію шведаў не разбілі пад Палтавай войскі Пятра I. З тых часоў за гарой, дзе месціўся апорны пункт, замацавалася назва Шведскай. Тапталі радашкавіцкую зямлю па дарозе на Маскву і назад у 1812 годзе французы, двойчы – у 1918 і 1941-1944 гадах – нямецкія войскі. Ужо ў першыя дні апошняй вайны з гітлераўцамі Радашкавічы сталі вядомыя свету як месца, дзе 26 чэрвеня 1941 года здзейсніў таран на скапленне варожай тэхнікі і цыстэрнаў з палівам экіпаж падбітага савецкага бамбардзіроўшчыка, пілатуемага капітанам М.Ф.Гастэлам. Неўміручы подзвіг Героя Савецкага Саюза М.Ф.Гастэлы ў 1964 годзе быў увекавечаны помнікамі скульптара З.Азгура ў Радашкавічах і пры дарозе на Мінск, але пры гэтым неапраўдана былі абыдзены імёны членаў яго экіпажа лейтэнантаў А.А.Бурдзенюка, Г.М.Скарабагатава і старшага сяржанта А.А.Калініна, таксама добраахвотна ахвяраваўшых сваім жыццём. Гістарычная справядлівасць была ўсталявана пры стварэнні новага мемарыяльнага комплексу на развілцы дарог у 1976 годзе (скульптар А.Анікейчык, архітэктары Л.Левін і Ю.Градаў). Напамінам аб героях і ахвярах Вялікай Айчыннай вайны з'яўляюцца помнікі на брацкіх магілах 133 савецкіх воінаў, якія загінулі пры вызваленні Радашкавічаў у ліпені 1944 года, і 1200 мірных жыхароў, расстраляных гітлераўцамі ў 1942-1943 гадах.

**Вядуць у Радашкавічы і дарогі нацыянальнай асветы і культуры. Яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя з 2615 жыхароў мястэчка былі пісьменнымі 44,4% чалавек, у той час як наогул па рэспубліцы да 1917 года сярод насельніцтва ва ўзросце ад 9 да 49 гадоў пісьменных было менш за адну трэць.**

З 1944 да 1960 года Радашкавічы былі раённым цэнтрам Маладзечанскай вобласці, потым засталіся проста гарпасёлкам, дзе старшынёй выканкома мясцовага Савета з 1962 года працаваў жывы сведка гераізму народных мсціўцаў у барацьбе з фашызмам былы камандзір партызанскай брыгады імя К.К.Ракасоўскага на Вілейшчыне А.В.Раманаў, камісарам у якога быў сам П.М.Машэраў. Падчас наведвання Маладзечна А.В.Раманаў часта заходзіў у гарком КПБ да майго калегі, былога кіраўніка камсамольскага падполля Д.С.Юракова, і мне прыемна было чуць, што П.М.Машэраў, стаўшы кіраўніком рэспублікі, да апошніх сваіх дзён вельмі паважліва і прыязна адносіўся да свайго былога камандзіра.

Вядуць у Радашкавічы і дарогі нацыянальнай асветы і культуры. Яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя з 2615 жыхароў мястэчка былі пісьменнымі 44,4% чалавек, у той час як наогул па рэспубліцы да 1917 года сярод насельніцтва ва ўзросце ад 9 да 49 гадоў пісьменных было менш за адну трэць. Нават у часы панавання Польшчы і масавага апалячвання мясцовага насельніцтва ў 1922 годзе там была адкрыта беларуская гімназія імя Ф.Скарыны. Наколькі няпроста было гэтага дабіцца, сведчыць той факт, што аднаму з галоўных ініцыятараў адкрыцця гімназіі ўраджэнцу Вілейкі, члену ЦК Беларускай сацыялістычнай Грамады і рэдактару-выдаўцу газеты "Наша ніва" ў 1906-14 гадах А.М.Уласаву прыйшлося за сваю ідэю заплаціць нават зняволеннем у польскі канцлагер у Стшалкове. Першым дырэктарам гімназіі была каларытная духоўная асоба ксёндз Ф.Абрантовіч. Магістр тэалогіі і доктар філасофіі, выкладчык Петраградскай духоўнай акадэміі і ў 1918 годзе рэктар Мінскай духоўнай семінарыі Фабіян Абрантовіч выступаў за вядзенне службы на беларускай мове ў касцёлах і духоўных навучальных установах, сябраваў з Я.Купалам і ў студзені-лютым 1920 года сядзеў каля ложка хворага паэта. У гімназіі вучылася 150 вучняў з навакольных вёсак, сярод якіх быў і будучы народны паэт Максім Танк, меўся інтэрнат, выдаваліся рукапісныя часопісы "Да сонца" і "Гудок", ладзіліся тэатральныя пастаноўкі, праводзіліся курсы для настаўнікаў беларускіх пачатковых школ. Але ў хуткім часе польскія ўлады занепакоіліся ўплывам гімназіі на нацыянальнае адраджэнне і, падчас уздыму нацыянальна-вызваленчага руху ў сярэдзіне 20-х гадоў, у верасні 1928 года яна была закрыта па загадзе маладзечанскага старасты з прычыны "небяспекі публічнага спакою". А баяцца было чаго, бо сярод выкладчыкаў гімназіі былі такія, як адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі, стваральнік Беларускай сялянска-рабочай Грамады, будучы акадэмік і аўтар "Беларускай граматыкі для школ" Браніслаў Адамавіч Тарашкевіч, памяць аб якім ушанавана ў назве вуліцы і мемарыяльнай дошкай на доме ў Радашкавічах, дзе ён жыў у 1923-1931 гадах. Дарэчы, у наш час за вяртанне да "тарашкевіцы", якая найлепшым чынам адпавядае фанетычнаму характару беларускага правапісу ад знівеліраванай у сталінскі перыяд пад рускі ўзор беларускай мовы, паслядоўна выступае Беларускі народны фронт і на ёй друкуе артыкулы газета "Наша Ніва".

Ёсць у Радашкавічаў сваё імя і ў тэатральным свеце. Асобнай старонкай у гісторыі станаўлення нацыянальнага тэатра занатавана "Радашкавіцкая тэатральная задума" – спроба мястэчковай інтэлігенцыі паставіць у 1892 годзе на беларускай мове без цэнзурнага дазволу п'есу аднаго з пачынальнікаў беларускай прозы Ядвігіна Ш. (сапраўднае прозвішча А.І.Лявіцкі). Мелася на ўвазе, выручку ад пастаноўкі спектакля выкарыстаць на адкрыццё бальніцы, але, даведзены да генеральнай рэпетыцыі, ён быў забаронены ўладамі, якія ўбачылі ў гэтай дабрачыннай акцыі "палітычную справу". Ёсць таксама звесткі, што менавіта ў Радашкавічах трупа аднаго з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра і Нацыянальнага тэатра імя Я.Купалы Фларыяна Ждановіча ўпершыню паставіла купалаўскую "Паўлінку". І не дзіўна, бо на радашкавіцкай зямлі ў 1882 годзе нарадзіўся наш вялікі паэт і драматург. Але чамусьці загаварылі аб гэтым шырока і ўголас толькі ў 1972 годзе, падчас усенароднага святкавання 90-годдзя з дня нараджэння Я.Купалы. Тады другое сваё жыццё атрымала в.Вязынка, дзе быў створаны мемарыяльны запаведнік з домам-музеем, дзе нарадзіўся паэт, там сталі праводзіцца Купалаўскія чытанні, ладзіцца масавыя экскурсіі. Апроч гонару за свайго земляка, мясцовыя жыхары атрымалі і выгаду ад суседства з мемарыялам. Каб не псаваць выгляду, у 1972 годзе ім усім, нягледзячы на напружанне на той час з шыферам, выдалі гэты дэфіцытны матэрыял накрыць не толькі хаты, але і гаспадарчыя пабудовы.

Радашкавічы пакінулі след і ў біяграфіях двух сучасных літаратараў – Адама Мальдзіса і майго аднакурсніка па універсітэце Вячаслава Рагойшы. Там, на працы ў рэдакцыі раённай газеты "Сцяг Ільіча", пад канец 50-х гадоў перакрыжаваліся жыццёвыя і творчыя шляхі гэтых будучых дактароў філалагічных навук, прафесараў і кіраўнікоў Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны.

І яшчэ адна адметнасць краю – прыродная. Радашкавічы з усіх бакоў абступаюць цудоўныя ўзвышшы Беларускай грады, па якіх праходзіць водападзел басейнаў рэк. І ўжо зусім унікальнае ў гэтым сэнсе месца – побач два масты пры ўездзе з Мінска: пад адным нясе свае воды ў Балтыйскае мора р.Гуйка, а пад другім рукатворны канал пабудаванай у 1968-1976 гадах Вілейска-Мінскай воднай сістэмы нясе ваду ў Свіслач і далей у Чорнае мора.

Ёсць тут і свой мікраклімат: можна з сонцам выехаць з Маладзечна, але яшчэ невядома з чым , дажджом ці туманам, сустрэнешся за Радашкавічамі. Ледніковы перыяд пакінуў тут магутныя, ад 7 да 38 м таўшчынёй, радовішчы пясчана-жвіровага матэрыялу. На запасах мясцовай гліны працуе цагельны завод і выпускае зробленую з добрым мастацкім густам прадукцыю створаны ў 1974 годзе завод "Белмастацкераміка".

Такая вось далёка няпоўная гісторыя гэтага беларускага мястэчка, якое ўжо ў 1549 годзе мела статус горада (!), а ў 1792 годзе – свой герб з выявай Святога Стэфана на сярэбраным полі. Якія людзі хадзілі ў розныя часы па яго вулічках! І хочацца верыць, што іх флюіды плывуць над Радашкавічамі і натхняюць новае пакаленне на добрыя справы дзеля лепшага будучага гарадскога пасёлка.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

